ТОЛЬКІ ТАК!

# СПРАВАВОДСТВА па-БЕЛАРУСКУ!

Травень 2012-2

Тэматычны неперыядычны дадатак да газеты "Гомельскія Навінкі"

## Нават туркмен загаварыў па-беларуску на матчы ў Гомелі




А таксама ў нумары:

Бел-чырвона-белыя сцягі побач з чырвона-зялёнымі ў Хельсінкі

Спорт па-беларуску!

Справаводства па-беларуску! передало бібліятэцы Тартускага ўніверсітэта Беларуска-еўрапейскі слоўнік

# Нават туркмен загаварыў па-беларуску на матчы ў Гомелі

**«Справаводства па-беларуску!» папулярызуе мову праз футбол.**

19 мая у дзень правядзення фіналу Лігі Чэмпіёнаў у Гомелі адбыўся чарговы этап футбольнага кубка «Справаводства па-беларуску!»-2012.




Мэта турніра – заахвоціць людзей да больш шырокага ўжытку беларускай мовы, кажа Ігар Случак, кіраўнік ініцыятывы.

Гэтым разам гулялі 6 каманд: «СпБ-09» («Справаводства па-беларуску!»), «ПТК» (сайт Pytalnik.tk), «Замежныя студэнты», «Мерв» (каманда туркменаў), «Аскорд» (гарадская каманда) і «БелГУТ» (студэнты Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта транспарту).

Агулам было праведзена 9 матчаў плюс 3 серыі пенальці.

Пераможцам турніру стала каманда арганізатараў – «СпБ-09». Другое і трэцяе месца занялі «Аскорд» і «Замежныя студэнты» адпаведна.

Гульні каментавалі па-беларуску Ігар Случак і Яўген Мароз. Апошні з'яўляецца трэнерам каманды «СпБ-09». Хлопец навучаецца ў Музычнай акадэміі. Ён каранямі з Расеі, але даўно жыве ў Гомелі і ведае мову.



Цікава, што на папярэднім турніры знайшоўся туркмен, які гаварыў па-беларуску.

«Гэта была цяжкая перамога. Тры каманды маглі стаць чэмпіёнамі, але ім стала «СпБ-09», і гэта сімвалічна.

Самая беларускамоўная каманда перамагла дастойна, не прайграўшы ніводнага матча. Я вельмі ганаруся хлопцамі»,

— кажа Мароз.



Усе ўдзельнікі турніра атрымалі памятныя падарункі, а каманды-пераможцы — яшчэ і кубкі. Найлепшым гульцом турніру быў прызнаны брамнік «СпБ-09». Каманда «ПТК» атрымала прыз «за стабільнасць», бо ўдзельнічала ва ўсіх этапах Кубка.

Першы кубак «Справаводства па-беларуску!» адбыўся ў снежні 2011 года. Тады перамагла каманда «ГумНо». У гэтым годзе кубак праводзіцца ў 4 этапы. Зімовы і веснавы турніры ўжо згуляныя, наперадзе яшчэ два.

Удзел у Кубку-2012 можа ўзяць любая каманда і з любога этапа. Арганізатары не выключаюць правядзенне гульняў і ў іншых гарадах.

*Аксана Рудовіч*

**Яшчэ 374 фота можна паглядзець па спасылцы**
http://vk.com/album-19441275_157406395

**Відэа можна паглядзець па спасылцы**
http://vk.com/videos-19441275 і
http://www.youtube.com/user/IharSluchak

# Бел-чырвона-белыя сцягі побач з чырвона-зялёнымі ў Хельсінкі

***Гульня беларускай каманды не радуе, але беларусы ўсё адно з'язджаюцца, каб падтрымаць сваіх. На матчы Беларусь-Францыя заўзятары віталі зборную як афіцыйнымі, так і нацыянальнымі сцягамі.***

Сярод фанатаў з бел-чырвона-белымі сцягамі быў гамяльчук Ігар Случак, аўтар ідэі «Справаводства па-беларуску!». Хлопец вучыцца ў Эстоніі. У Хельсінкі прыехаў на пароме з Таліна.

Ігар даўно марыў трапіць на Чэмпіянат свету па хакеі.

А матч Беларусь-Францыя 14 мая выбраў адмыслова. У гэты дзень у 95-м годзе нацыянальныя герб і сцяг былі замененыя савецкай сімволікай.

Сяргей, беларус з Піцера, і яго сябар Віктар прыехалі ў Хельсінкі на некалькі матчаў з удзелам нашай зборнай. Сяргей родам з Берасцейшчыны, апошнія 8 гадоў жыве ў Расіі, але радзіму не забывае.

Хадзіў на канцэрт «Ляпісаў» у Піцеры, а зараз вось прыехаў падтрымаць нашых нацыянальным сцягам.

На стадыёне непадалёку ад яго сядзеў старшыня Федэрацыі хакея Беларусі Яўген Ворсін. Сяргей сфатаграфаваўся разам з ім. Але

Ворсін не хацеў, каб у кадр трапіў б-ч-б сцяг, «каб не падумалі, што ён «з нашых», смяецца піцерскі беларус.

Аднак больш за ўсё бел-чырвона-белых сцягоў было ў… фінскіх хлопцаў і дзяўчат, мясцовых дэмакратычных актывістаў. Сцягі яны пашылі на заказ.

Апроч сцягоў прынеслі плакаты «Free Belarus» («Вольная Беларусь»), «Lukashenka resign» («Лукашэнка, ідзі ў адстаўку») ды б-ч-б акуляры.

У першым тайме фіны сядзелі асобна. У перапынку іх адшукалі беларускія заўзятары, і рэшту гульні яны сядзелі разам.

Нашы заўзятары як з чырвона-зялёнымі, так і з бел-чырвона-белымі сцягамі, крычалі па-беларуску «Беларусы - назаўжды!» і «Нам трэба гол!». Аднак на вынік гульні гэта, на жаль, не паўплывала.



*Аксана Рудовіч, Хельсінкі*

# Спорт па-беларуску!

***Ліст з прапановай больш ужываць беларускую мову ў спорце накіравала большасці футбольных і хакейных клубаў Беларусі грамадзянская ініцыятыва "Справаводства па-беларуску", паведамляе Праваабарончы цэнтр "Вясна".***

«Як прыклад мы прывялі стадыён ФК «Гомель», дзе дыктарскае суправаджэнне з гэтага года ідзе па-беларуску, а таксама канал «Беларусь-2», дзе таксама з гэтага сезона некаторыя матчы пачалі каментаваць цалкам па-беларуску, чаго вельмі даўно не было. Мы прапанавалі клубам больш шырока ўжываць беларускую мову ў справаводстве, пісаць прозвішчы гульцоў на іх спартовым адзенні па-беларуску, зрабіць беларускую версію іх сайтаў, а таксама дыктарскае суправаджэнне падчас матчаў выконваць па-беларуску. Спадзяемся, што нашы прапановы не будуць пакінуты без увагі, бо лічу, што для папулярызацыі беларускай мовы патрэбны нестандартныя падыходы. Большасць беларусаў, на жаль, не ведае Багушэвіча ці на якой мове быў напісаны Статут ВКЛ. Але абсалютная большасць цікавіцца спортам у розных яго праявах, глядзіць рэкламу ці наведвае забаўляльныя месцы. Таму і мову трэба даносіць да людзей праз той рэсурс, які ім бліжэй, і яны да яе пацягнуцца», – лічыць Ігар Случак, аўтар ідэі грамадзянскай ініцыятывы «Справаводства па-беларуску!».

Дарэчы, «Справаводства па-беларуску!», сябра Асамблеі НДА (Літва) з 2011 года ладзіць адмысловы футбольны Кубак, мэтай якога з'яўляецца папулярызацыя беларускай мовы. У 2012 годзе ўжо прайшлі яго Зімовы і Веснавы этапы ў якіх прыняло ўдзел 8 каманд, якія складаліся як са студэнтаў гомельскіх ВНУ, жыхароў Гомеля, так і замежных студэнтаў і прадстаўнікоў мясцовых НДА і СМІ.

*http://dzedzich.org*

# Справаводства па-беларуску! перадало бібліятэцы Тартускага ўніверсітэта Беларуска-еўрапейскі слоўнік

***Аўтар ідэі грамадзянскай ініцыятывы “Справаводства па-беларуску!” перадаў бібліятэцы Тартускага ўніверсітэта (Эстонія) Беларуска-лацінска-еўрапейскі слоўнік.***



Аўтар ідэі грамадзянскай ініцыятывы “Справаводства па-беларуску!” перадаў бібліятэцы Тартускага ўніверсітэта (Эстонія) Беларуска-лацінска-еўрапейскі слоўнік.“Тартускі ўніверсітэт афіцыйна заснаваны ў 1632 годзе, за гэты час у ім навучалася каля 2200 студэнтаў, што паходзяць з этнаграфічных беларускіх зямель. Сярод іх такія выбітныя беларусы як Антон і Стэфан Луцкевічы, Усевалад Ігнатоўскі, князі Радзівілы і іншыя не менш знакамітыя беларусы. Але шчыра кажучы, годам заснавання ўніверсітэта павінен лічыцца 1583 год, калі Вялікі Князь Літоўскі Стэфан Баторы адчыніў у Тарту Іезуіцкі Калегіум, паклаўшы пачатак студэнцкаму жыццю ў Тарту і наогул у Эстоніі. Паводле ўсіх характарыстык ён адпавядаў усім прыкметам універсітэтаў тых часоў, але, і са мной сыходзяцца ў гэтым некаторыя выкладчыкі-гісторыкі Тартускага ўніверсітэта, па палітычна-рэлігійных прычынах годам заснавання ўніверсітэта лічыцца 1632, калі шведскі кароль Густаў Другі Адольф падпісаў паперы аб адкрыцці ў Тарту Акадэміі Густавіана. І гэта быў у большасьці вымушаны крок, бо, адваяваўшы ў Рэчы Паспалітай Тарту, ён не мог дазволіць тое, каб адукацыйнае першынства на гэтых тэрыторыях належыла былому ворагу.

Таму, не было б Іезуіцкага Калегіума, не было б цяпер хутчэй за ўсё Тартускага ўніверсітэта. І трэба падкрэсліць, што выкладчыкамі ў Іезуіцкім Калегіуме былі беларусы і палякі, якія, вывучыўшы эстонскую мову, вучылі ў Калегіуме па-эстонску мясцовых жыхароў, эстонцаў, чым паклалі пачатак эстонамоўнай ды і наогул вышэйшай адукацыі на тэрыторыях сучаснай Эстоніі. У той жа час аб выкладанні па-эстонску і для эстонцаў у Акадэміі Густавіана не было і размовы. Тартускі ўніверсітэт стаў эстонамоўным толькі ў 1918 годзе, а прымаць эстонцаў ва ўніверсітэт пачалі толькі ў сярэдзіне 19 стагоддзя. Беларусы ж вучылі эстонцаў на іх мове ўжо ў 1583 годзе, але гэта было парушана шведскай заваёвай Тарту і прылеглых зямель у 1632 годзе. І пра гэта не трэба забываць. Таму, лічу, што беларуска-лацінска-еўрапейскі слоўнік - гэта тая кніга, якая павінна быць у Тартускай бібліятэцы ў першую чаргу, разам з Беларуска – Эстонскім слоўнікам.”, - лічыць Ігар Случак.

Гарамадзянская ініцыятыва “Справаводства па-беларуску!”, сябра Асамблеі НДА (Літва) займаецца лабіраванннем змен у заканадаўстве, накіраваных на падвышэнне статуса і заканадаўчай абароны беларускай мовы. У 2012 годзе прыярытэтнымі для кампаніі з’яўляюцца кірункі забеспячэння беларускай мовы ў сферы рэкламы, камунікацыі, культуры і адпачынку.

*http://www.zbsb.org/*






Тэматычны неперыядычны дадатак да газеты "Гомельскія Навінкі" *“Справаводства па-Беларуску!”*
Уладальнікі выдання ***M&S Media***

Заснавальнік: *Францыск Піцерскі*
Галоўны рэдактар: *Алесь Пыхаў*
Карэктар: *Мікола Хмызняк*
Галоўны дызайнер: *Аляксей Венецыянаў*

246050, г. Гомель, вул. Пуліхава, 17, рэдакцыя “Гомельскія Навінкі - Справаводства па-Беларуску”

Надрукавана на Папяровай фабрыцы “ГумНо”, г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 17б.

Тыраж: 250 асобнікаў.

Распаўсюджваецца безкаштоўна.




**Архіў газеты "Справаводства па-беларуску!" ў Беларускай інтэрнэт-бібліятэцы KAMUNIKAT:**
http://kamunikat.org/spravavodstva_pa_bielarusku.html
**Архіў УКантакце:** http://vk.com/docs?oid=-19441275

Наш ***e-mail:***
**gnavinki@gmail.com**

*Мы ў сацыяльных сетках:*
***vkontakte.ru:*** http://vk.com/spravavodstva_pa_belarusku
***Аляксей Венецыянаў:*** http://vk.com/id167202367

M&S MEDIA